ПА ХВАЛЯХ РАДЫЁ "СВАБОДА": ЛІСТЫ З КАЛІФОРНІІ

# Беларусь у Амэрыцы

*(Працяг з "ТМ"№№ 38-41)*

***У цэнтры Сан-Францыска я рэгулярна сустракаю акуратна апранутага чалавека з плякатам: "Імпічмэнт Клінтану! 12 галяктыкаў выказаліся "за". Ён – частка гарадзкога пэйзажу і досыць бяскрыўдная – зрэшты, хаця б не выступае за татальную забарону сэксу, як робіць яшчэ адзін барадаты пэрсанаж з мэгафонам. Пераходзіш вуліцу, і раптам табе ў вуха нехта як гаркне пра шкоднасьць каханьня.***

Я потым бачыў, як яго саджалі ў паліцэйскую машыну – спачатку з задняга сядзеньня выкацілі запасное кола, потым увапхнулі прамоўцу, прыціснулі гумай і павезьлі. Абаронцаў у прыхільніка альтэрнатыўных формаў працягу жыцьця не знайшлося. Праўда, забралі яго не за агітацыю, а за тое, што блякаваў праезд.

Свабода слова, як і свабода асацыяцыяў – добра вядомыя рысы жыцьця па-амэрыканску. Таму я ня надта зьдзівіўся, калі пачуў пра асацыяцыю сяброў цёмнага неба, якая вядзе змаганьне супраць сьвятла. Абы не перашкаджалі праезду – але аказалася, што даволі актыўна перашкаджаюць. І ня толькі ў Каліфорніі, але ва Ўкраіне і ў Польшчы, Расеі і Літве, Латвіі. Адзінае выключэньне ў цэнтральнай Эўропе – Беларусь.

Некалькі амэрыканцаў са штату Арызона, якія ў 1988 годзе заснавалі "Асацыяцыю Цёмнага Неба", не належалі да акультных сэктаў ці гангстэрскіх груповак. Ноч цікавіла іх выключна ў мірных мэтах. Зорнае неба, якое заўсёды прыцягвала чалавека сваёй фантастычнай прыгажосьцю і невымернай тайнай, у 20-м стагодзьдзі паціху стала зьнікаць. Людзі, якія раней назіралі за ўзыходам Вэнэры з парогу дома, даўно ўжо ня бачаць сузор'яў свайго дзяцінства. Прычына – штучнае сьвятло. Агні гарадоў, яркая рэкляма, падсьвятленьне будынкаў і помнікаў, ілюмінацыя на дрэвах, магутныя лямпы на высокіх слупах уздоўж дарог кардынальна зьмянілі колер сучаснай ночы. Адзін астраном-аматар з Вашынгтону скардзіўся, што мусіць езьдзіць за 100 міляў ад сталіцы, каб наглядзецца на галяктыкі.

Задача сяброў "Цёмнага Неба" – змагацца са сьветлавым забруджаньнем, неэфэктыўным вулічным асьвятленьнем, каб вярнуць ноч на Зямлю. Сёньня асацыяцыя налічвае больш за пяць тысячаў сябраў у 71 краіне й мае сваю старонку ў Інтэрнэце, – www.darksky.org

У штаб-кватэры, дзе я атрымаў гэтыя дадзеныя, мне пацьвердзілі, што ў Беларусі барацьбу за цёмную эўрапейскую ноч пакуль ніхто не вядзе і пацікавіліся, чаму. Я апраўдваўся тым, што ў Беларусі пакуль праблемы з днём па-эўрапейску – але запэўніў, што існуе паважная традыцыя барацьбы з залішне яркім асьвятленьнем, асабліва на танцпляцоўках. Адмыслоўцы гасяць тыя лямпачкі з аднаго кідка.

Беларусы любяць і шануюць сваё неба ня менш за суседзяў. Вось што гаворыць герой адной беларускай кніжкі, выдадзенай каля ста гадоў таму: "А колькі зоркаў на небі, гэтага яшчэ ніхто не зрахаваў і не зрахуець ніколі. А колькі яшчэ мігаціць на гэтым белым пасі зоркаў, каторы ў нас называюць млечным паясом, або Мінскім гасьцінцам, бо цягнецца ён як бы з Мінска да Вільна! Кажуць людзі, што гэта ня зоркі, але проста белая смуга; а яшчэ некаторыя гавоpуць, што нехта ішоў па небі, разьбіў жбан з малаком, і малако разьлілося ўздоўж белай смугай; але гэта такая самая праўда, як тая, што на месяцы чорт хлопца на вілах трымаець".

Кніга захоўваецца тут, у Каліфорніі, на паліцах Гувэраўскай вежы і называцца "Гутаркі аб небі і зямлі". Яна выйшла ў 1907 годзе ў Пецярбургу ў рамках знакамітай сэрыі "Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ!" Як кніжка патрапіла з друкарні К.Пянткоўскага, што была на Вялікай Пад'ячаскай вуліцы, у Стэнфард – дакладна ня ведаю, але я стаў першым чытачом – прынамсі, старонкі давялося разразаць спэцыяльным нажом для паперы. Сёньня яе герой, сялянскі хлопец, хіба ня змог бы пабачыць Менскі гасьцінец – той самы зорны пояс, што цягнецца зь Менску да Вільні. І прычына – сьветлавое забруджаньне.

Асацыяцыя цёмнага неба з дапамогай сатэлітных фатаграфіяў склала начную мапу Эўропы – увесь кантынэнт у вагнях. У Беларусі вылучаюцца абласныя гарады, індустрыяльныя цэнтры – Бабруйск, Баранавічы, Мазыр, раённыя сталіцы, – усяго каля паўсотні сьветлавых кропак. Але самая яркая пляма ў гэтым рэгіёне Эўропы – якраз на лініі Менск-Вільня. (Адрас мапы ў Інтэрнэце: http://debora.pd.astro.it/cinzano/defaulten.html).

У Амэрыцы вулічнае асьвятленьне рэгулюецца спэцыяльным кодэксам, дакумэнтам даволі паважнага аб'ёму. Аматары цёмнага неба лічаць кодэкс карысным, але недастаткова канкрэтным, ягоныя рэкамэндацыі адрасаваныя перш за ўсё фэдэральным установам і арганізацыям. Сябры цемры ўзялі ініцыятыву ва ўласныя рукі і вядуць прапаганду якаснай ночы сярод сваіх знаёмых, мясцовых бізнэсмэнаў і палітыкаў. Замест начнога пражэктарнага асьвятленьня амэрыканскага сьцяга, напрыклад, прапануецца разам з заходам сонца прыспускаць зорна-паласатае палотнішча, як гэта традыцыйна рабілася на працягу стагодзьдзяў. З дапамогай псыхолягаў распрацаваны дапаможнік "Як пагаварыць з суседам, у якога дрэнная яркая лямпа".

У Менскіх мікраёнах адзін час была мода мацаваць магутныя ртутныя лямпы проста на панэль дома, каля вакна 3-4 паверхаў. Можна ўявіць, якія сны сьнілі ў тых пакоях. І можна ўявіць, як бы рэагавалі ў ЖЭСе, калі загаварыць зь імі пра ахову зорак і галяктыкаў на тэрыторыі мікраёну.

На мапе яркай эўрапейскай ночы першая істотная паводле памеру чорная пляма зьяўляецца якраз на поўдні Беларусі і поўначы Ўкраіны. Так і хочацца сказаць ганарлівым мічыганцам – welcome to Pales'se, вось дзе ноч дык ноч – на тысячу квадратных кілямэтраў хоць вока выкалі. Але беларуская ноч стане прадметам экспарту не раней, чым прыйдзе эўрапейскі дзень.

Свае 30 даляраў – сяброўскі ўнёсак напэўна аддаў бы "Цёмнаму Небу" і пастух са старой кнігі "Гутаркі аб небі і зямлі", які прызнаецца: "Расьцягнуся бывала, дзе на лузі пад стогам і пазіраю на неба, – што бяз берага яно і бяз канца; як падумаеш сабе, што гэтыя маленькія зоркі – такія вялікія, як нашэ сонцэ, або яшчэ большыя; і што іх так многа, так аж у галаве чалавека закруціцца, і навэт страх думаць аб гэтым сьвеці Божым: німа яму ані канца, ані меры, ані рахунку!.."

Авечага пастуха зь беларускай вёскі і астранома-аматара з Амэрыкі аднолькава вабіць зорнае неба – нямецкі філёзаф Імануіл Кант называў яго першай зь дзьвюх вялікіх тайнаў, якія ўсё жыцьцё займалі яго.

Пра другую тайну – у наступным лісьце з Каліфорніі.

***Аляксандар ЛУКАШУК***



## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Крычава



***Мясцовыя ўладальнікі прыватных дамоў пачуваюцца вельмі няўтульна: няма дзе здабыць паліва.***

У Крычаве праблема з забесьпячэньнем насельніцтва палівам на пэрыяд восень-зіма паўстае штогод. Прыватнікі яшчэ зь вясны пачынаюць мітусіцца: дзе дастаць хоць штонебудзь, каб атапліваць сваё жытло ў маразы.

Магчымасьць набыцьця, напрыклад, вуглю засталася толькі ў прадпрыемстваў і арганізацыяў. Дый магчымасьць гэтая нейкая цьмяная, бо трэба мець пэўныя сувязі ды знаёмствы. Торфабрыкет таксама амаль недасягальны для крычаўскіх прыватнікаў. Па словах кіраўніка мясцовага гарпалівазбыту, пасьля траўня гэты прадукт прадаюць толькі т. зв. ільготнікам (інвалідам, вэтэранам ды інш.).

Час ад часу дэфіцытнымі становяцца нават дровы, якіх папросту няма каму нарыхтоўваць. Гэтую праблему дапамагае вырашаць павіннасьць, накладзеная выканкамам на мясцовыя прадпрыемствы – некаторыя зь іх рубяць лес і пастаўляюць яго ў гарпалівазбыт. Асобна тут трэба адзначыць крычаўскую спэцкамэндатуру, якая накіроўвае ўсе магчымыя рэсурсы на нарыхтоўку дроваў.

### ...з Клімавічаў

***На фоне пастаяннага зьніжэньня колькасьці насельніцтва ў беларускай правінцыі, вельмі прываблівы выглядаюць асобныя выспачкі дэмаграфічнага дабрабыту.***

Зараз на Клімаўшчыне налічваецца 365 сем'яў, у якіх выхоўваюць па тры і больш дзетак. А найбольш шматдзетнымі ёсьць 6 сем'яў у горадзе і 26 (!) у раёне. Такім чынам, беларуская вёска і сёньня дзенідзе застаецца традыцыйна шматдзетнай, нягледзячы на цяжкі лёс.

***Андрэй КУЗЬМІН***

### ...з Глуску



***Раённымі спажыўцамі электрычнасьці аплочана меней як чвэрць скарыстанай энэргіі.***

Найгорш за ўсіх з энэргетыкамі разьлічваюцца калгасы і іншыя прадпрыемствы гэтай галіны. Сумнеўнае першае месца ў гэтым "сьпісе пераможцаў" займае экспэрымэнтальная база "Глуск", калі, зразумела, яна ня ставіць такі экспэрымэнт: колькі можна пратрымацца, не плацячы за электрычнасьць. Дзесяць месяцаў гэта ўдаецца. У сьпісе лідэраў сярод бюджэтных арганізацыяў, дарэчы, – сам райвыканкам. Але са значна меншым "дасягненьнем": усяго толькі на 4-ым месцы.

***Ігар КІРЫН***

### ...з Шклову

***Апошнія выбары, як вядома, выклікалі шмат нараканьняў з усіх бакоў грамадзтва і нават эўрапейскіх арганізацыяў.***

Затое імі засталіся задаволенымі прыхаджане Спаса-Прэабражэнскай праваслаўнай царквы, якія надрукавалі Ўдзячны ліст ізноў абранаму дэпутату Ў.Канаплёву за "дапамогу ў рамонце царквы і тэхнічную падтрымку ў рабоце нядзельнай царкоўнай школцы". Невядома толькі, ці сам непасрэдна працаваў спадар дэпутат у царкве, ці спрычыніўся да добрай справы якім іншым чынам.

***Больш, чым за 10 тыс. амэрыканскіх даляраў набыў нехта сп.Сёмушкін у вёсцы Літоўск сядзібу, што па чутках належала аднаму са знакамітых магілёўскіх дырэктараў.***

Аднак дасьведчаныя людзі гавораць, што будынак спатрэбіўся, каб разьмесьціць у ім будучы рэгіянальны штаб кандыдата Лукашэнкі на наступных прэзыдэнцкіх выбарах, якія чакаюцца праз год. Штаб будзе ачольваць тэрыторыю як меней 5-ці бліжэйшых раёнаў.

***Аляксандар ШЧАРБАК***

### ...з Асіповічаў

***Мясцовае насельніцтва лічыць за лепшае набываць тавары ня там, дзе жыве, а ў іншых месцах.***

Гэта сталася відавочным з паведамленьня пра тое, што банкаўская эмісія ў раёне (розьніца паміж выдадзенымі банкам грашыма й тымі, што вяртаюцца назад) склала з пачатку года суму, адэкватную 4-ом мільёнам амэрыканскіх даляраў. За стан наяўнага грашовага абароту адказвае, згодна закону, мясцовая ўлада. Па гэтых выніках добра бачна, як яна спраўляецца з сваімі абавязкамі.

***На чыгунку прыйшло распараджэньне "зьверху" скараціць штат на 15 адсоткаў.***

У распараджэньні зьвяртаецца ўвага, што найперш гэта трэба забясьпечыць за кошт скарачэньня адміністрацыі. Аднак пакуль людзі ведаюць толькі пра скарачэньне ў асіповіцкім ДК чыгуначнікаў адной бугалтаркі, а ў буфэце на вакзале – буфэтчыцы.

***Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ***

# Гэты чарадзейны восеньскі каравай

***Днямі ў Асіповічах прайшоў канцэрт мастацкіх калектываў пад лірычным назовам "Восеньскі каравай".***

У ім прынялі ўдзел, здаецца, усе, хто хоць што-небудзь умеў рабіць на сцэне. Пры гэтым многія калектывы ня мелі ніякага дачыненьня да раённага аддзелу культуры, аднак пазначаліся як уваходзячыя пад ягонае кіраваньне і шэфства. Чарговым разам райаддзел культуры схаваўся за калектывы, якіх на самой справе нават не заўсёды "любіць", каб не сказаць перасьледуе.

Адкуль што, сталася зразумелым, калі высьветлілася, што гэта быў ня проста нейкі там канцэрт для стомленых восеньскімі клопатамі гараджанаў. Тое быў Рэспубліканскі конкурс па рабоце цэнтраў культуры на новую (лепшую, зразумела) мадэль клюбнай установы ў сучасных умовах. Нездарма на канцэрце прысутнічалі высокапастаўлены чыноўнік Міністэрства культуры сп.Гіль і намесьнік начальніка абласнога ўпраўленьня культуры сп.Лаўцоў. Для іх усё гэта і круцілася, бо людзі ў залі ў большасьці сваёй з-за выпадковасьці свайго знаходжаньня на канцэрце так "культурна наабслугоўваліся" перад імпрэзай, што было незразумелым, навошта ім яшчэ нейкія артысты...

Позна ўвечары ў перапоўненым грамадзкім транспарце вярталіся артысты да гораду. Можа, хто зь іх і ведаў пра тое, аб чым давялося дазнацца падчас канцэрту-конкурсу мне: хутка наш начальнік культуры, то бок загадчык адпаведнага аддзелу райвыканкаму, будзе езьдзіць з працы да дому і па іншых справах на паабяцанай яму за добрае мерапрыемства службовай легкавушцы.

Вось такім ён бывае, гэты Восеньскі каравай...

***Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ***

# Вайна вакол гарэлкі

***... Хто ня ведае сацыяльнай шкоднасьці і небясьпекі п'янства і алькагалізму? Тым ня менш, далей канстатацыі гэтага факту справа ў нас ня йдзе.***

Горш таго, апошнім часам такое адчуваньне, што сама дзяржава робіць нямала для таго, каб гэтая загана не зьнікала зь беларускага жыцьця. Любое масавае сьвяткаваньне – ад "Дажынак" да "Дзён сельсаветаў" – мае ў сваім сцэнары мажлівасьць і даступнасьць масавага ўжываньня сьпіртовых напояў. Заваёўваюць некалі страчаныя пазыцыі напоі, што з аднаго боку – танныя, а зь іншага – б'юць па мазгах як трэба. Ды й гарэлка, нягледзячы на пастаяннае падвышэньне цаны, застаецца адным з самых дасягальных для працуючага беларуса прадуктаў. На гэты прадукт, згодна статыстыцы, сярэдняя сям'я затрачвае ў месяц амаль 6% бюджэту. Па нашым раёне штомесяц з агульнага фонду выплачанай заработнай платы дзяржаве – праз гарэлку – вяртаецца да 22% грошай. Сёлета доля гандлёвага абароту, што прыпадае на гарэлку, вырасла амаль на 3%. Ніхто ня ведае, колькі сюды трэба дадаць "працэнтаў", якія пайшлі на набыцьцё самагонкі. Ведама толькі, што за рэалізацыю самагонкі ўзбуджана па раёну 6 крымінальных справаў, а ўсяго ўстаноўлена фактаў незаконнага самагонаварэньня ажно 95. Пры гэтым і міліцыя, і ўсе грамадзяне разумеюць, што гаворка ідзе пра самую-самую вяршыню гэтага "айсбэргу".

Побач з гарэлкай і вакол яе разгараецца ці не вайна, калі лічыць ейныя ахвяры. На так званай бытавой глебе як меней па тры крымінальныя справы ўзбуджаецца штомесяц.

Сёлета па розных прычынах у раёне загінула 39 чалавек.

Зь іх 24 – былі ў нецьвярозым стане.

***Міхась КАРПЕЧАНКА***

## БЕЛАПАН для «ТМ»

**Эўрапейскі камітэт Міжнароднага саюзу сацыялістычнай моладзі (МССМ) заклікаў дэмакратычныя ўрады Эўропы і сьвету, а таксама Раду Эўропы, АБСЭ і ЭўраЗьвяз узмацніць палітычны ціск на рэжым Лукашэнкі.**

У адмысловай рэзалюцыі, прынятай эўрапейскімі сацыял-дэмакратамі, яны патрабуюць ад беларускіх уладаў устанавіць сапраўдную дэмакратыю, спыніць перасьлед актывістаў дэмакратычных арганізацыяў і журналістаў, паважаць дэмакратычныя свабоды і правы чалавека, а таксама вызваліць усіх палітзьняволеных. Акрамя таго, маладыя эўрапейцы зьвярнуліся да кіраўніцтва Расейскай Фэдэрацыі з патрабаваньнем "спыніць падтрымку дыктатуры ў Беларусі".

Эўрапейскі камітэт МССМ заклікаў усе дэмакратычныя сілы Эўропы далучыцца да запланаванай на 12 лістапада беларускай моладзевай акцыі "Пераменаў!" і арганізаваць у гэты дзень пікетаваньне беларускіх амбасадаў у эўрапейскіх сталіцах.

●

**Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя – БНФ 5 лістапада праводзіць шэсьце і мітынг-рэквіем у Лошыцкім яры ў Менску.**

Мерапрыемства пройдзе ў рамках адзначэньня Дзядоў на месцы масавых расстрэлаў людзей у 1930-40-х гадах, падчас сталінскіх рэпрэсіяў. Збор удзельнікаў акцыі а 12-й гадзіне, каля Дома культуры камвольнага камбіната. Шэсьце да Лошыцкага яру пройдзе па ходніках вуліцы Маякоўскага да 13.00. Пасьля адбудзецца мітынг-рэквіем у Лошыцкім парку.

●

**Беларускі Хельсінскі Камітэт 30 кастрычніка выступіў з Заявай аб фальсыфікацыі ўладамі вынікаў выбараў.**

Выбары паказалі, адзначана ў Заяве, што афіцыйная ўлада, адкінуўшы ўсялякае прыкрыцьцё па фармальнаму выкананьню прынцыпаў дэмакратычнасьці, адкрытасьці і законнасьці, цынічна і нахабна ліквідавала гарантаваную Канстытуцыяй свабоду выбару, свабоду волевыяўленьня грамадзянаў. "Для нас ёсьць відавочным, што вынікі выбараў сфальшаваныя, а абраны такім шляхам найвышэйшы заканадаўчы орган краіны ня можа быць прызнаны легітымным", – падкрэсьліваецца ў дакумэнце.

●

**Грамадзкае аб'яднаньне "Няміга-99" арганізуе 4 лістапада 9-гадзінны пікет у 200 мэтрах ад месца леташняй трагедыі – каля будынку спартыўнага комплексу.**

Мэта пікету – прыцягнуць увагу грамадзкасьці да пытаньня ўвекавечаньня памяці загінуўшых у цісканіне ў падземным пераходзе 30 траўня 1999 году.

**БЕЛАПАН для «ТМ»**

**На просьбу Аб'яднанага Камітэту па пошуку і абароне зьніклых бязь зьвестак ваеннапалонных Злучаных Штатаў Амэрыкі грамадзкае аб'яднаньне "Дыярыуш" прымае ўдзел у пошуку інфармацыі пра амэрыканскіх грамадзянаў, што зьніклі падчас ІІ Сусьветнай вайны і ў наступныя дзесяцігодзьдзі. З гэтай нагоды "Дыярыуш" зьвяртаецца да ўсіх, хто штосьці ведае пра амэрыканцаў, якія патрапілі на тэрыторыю былога Савецкага Саюзу і загінулі там ці ўтрымліваліся ў лягерах і турмах, паведаміць пра гэта.**

**Любыя дакумэнты, асабістыя рэчы, а таксама паведамленьні, зьвязаныя са зьнікненьнем амэрыканцаў, будуць зь вялікай удзячнасьцю прынятыя сем'ямі, што цягам доўгіх гадоў нічога ня ведалі пра лёс сваіх зьніклых бацькоў, мужоў, сыноў, братоў.**

**Загадзя выказваем глыбокую ўдзячнасьць за любую дапамогу і просім інфармацыю дасылаць на адрас: а/с 128, 220064, Менск.**

**Кантактны тэлефон: (8-017) 243-67-51**

**office@dyjaryush.org.by**

## МІЛІЦЭЙСКІЯ БУДНІ

# Прафэсійны "патрыятызм" супраць закону

***У верасьні немалую цікавасьць чытачоў выклікала наша перадрукоўка зь "Белорусской деловой газеты" артыкулу "На допросе...". Зрабілі мы гэта на просьбу мясцовых праваабаронцаў, паколькі менавіта яны здолелі здабыць факталягічны матэрыял для карэспандэнта "БДГ", а таксама таму, што гаворка ў публікацыі ішла пра мясцовую міліцыю... Аўтар публікацыі днямі перадаў рэдакцыі вось гэтую зацемку.***

Нарэшце атрыманы адказ ад начальніка абласной міліцыі Сьвятаслава Курэля. Ён прызнае факт "употребления нецензурных выражений во время беседы сотрудников милиции Богина и Васильева с гр-ном Афанасенко Д.В", аднак пры гэтым палкоўнік паведамляе, што "в ходе служебного расследования" не пацьверджанае вымаганьне сьледчымі ад грамадзяніна "ложных показаний".

Атрымліваецца, што пагроза пасадзіць хлопца за краты, якая ўвесь час гучыць у гэтай "беседе", калі ён ня дасьць патрэбных сьледзтву паказаньняў, ня ёсьць ціскам і прымусам, якія законам забараняюцца, а ёсьць толькі сьведчаньнем недастатковай выхаванасьці падначаленых сп. Курэля.

Выхаваньнем наша міліцыя сапраўды ня надта вызначаецца, што бачна на кожным кроку. Дрэнна, заганна. Аднак жа гаворка ў публікацыі ішла не пра тое: пра злоснае, наўмыснае грэбаваньне законам з боку ягоных ахоўнікаў. Прыкра, што начальнік абласной міліцыі ўзяў тое пад сваю абарону. Здавалася б, каму як не чалавеку на такой пасадзе, разумець усю небясьпеку падмены роўнасьці ўсіх перад законам на сумнеўную патрыятычнасьць у адстойваньні "гонару мундзіру". Ад такога адстойваньня грамадзтва можа чакаць толькі яшчэ большай бяды, а не абароны сваіх правоў і законнасьці ў краіне.

***Аляксандар АЛЕКСАНДРОВІЧ, карэспандэнт "БДГ"***

На допросе

неоконченная пьеса для милиции и диктофона

**Рэдактар Генадзь СУДНІК**

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 43. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 2.11.2000 г. а 17.05.